# НАША ЗМАГАНЬНЕ

Надыйшлі дні напружанага змаганьня супроць агульнага ворага чалавецтва — бальшавізму. Кажны беларус мусіць гэткім часам быць найбольш спакойным, вытрыманым і нацыянальна згуртаваным, бо гэтага вымагаюць інтарэсы усяго беларускага народу.

Малаверам і панікёрам, што учыняюць сваёй баязьлівасьцяй шкоду нашай Бацькаўшчыне, няма мейсца у нашых шэрагах. Няма ніякіх прычынаў і падставаў для нэрвовасьці і замяшаньня. Наадварот, усяму беларускаму народу, як ніколі, патрэбная моцная воля і адзінства духу, што зьяўляецца падставаю перадужваньняў цяжкасьцяў у змаганьні на шляху да дасягненьня канчальнае перамогі.

Бальшавіцкая прапаганда робіць усё тое, каб трымаць нашых людзей у напружаньні і гэтым самым даканаць дэзарганізацыі нашых згуртаваных шэрагаў, дэмаралізаваць іх і гэткім чынам уцягнуць беларускі народ у гарно няшчасьцяў.

З гэтаю мэтаю сталінскія агенты распаўсюджваюць усялякія недарэчныя чуткі, якія падхопваюцца некаторымі хісткімі людзьмі і распаўсюджваюцца сярод народу, і гэткім чынам сееюца насеньне няўпэўненасьці у нашыя сілы.

Зразумела, што гэта ідзе на карысьць толькі нашага заклятага ворага — бальшавізму.

Вялікая вызвольная вайна народаў, якая цяпер вядзецца дзеля нашага шчасьця, дзеля захаваньня нашае культуры і нашае радзімы, забрала і у нас некаторыя ахвяры. Яна не магла абмінуць нас. Інакш думаць могуць толькі тыя людзі, якія не разумеюць сэнсу гэтага вялікага змаганьня, і таго, што наўкола адбываецца.

Кажны беларус хай памятае заўсёды, што вынік гэтае вайны вырашыць ягонае асабістае шчасьце, а таксама дабрабыт усяго беларускага народу. Дзеля гэтае мэты ён мусіць напружана працаваць і змагацца, не шкадуючы сілаў для дасягненьня перамогі.

Згуртаваньне усяе нацыі — усяго народу — вялікая сіла, якая здольная перамагчы усё. Паратунак беларусаў — у іхным адзінсьцьве, у мабілізацыі сваёй волі і духу з гатовасьцяй змагацца да канца.

Сьмяртэльным і адзіным ворагам нашым, што імкнецца перарварыць наш вольналюбны народ на паслухмяных халопаў і нявольнікаў, ёсьць Масква. Гэта яна пасылае супроць нас чырвонаармейскія горды, гэта яна закідвае сваіх агентаў і бандытаў у нашыя лясы, парушаючы супакой і працоўнае жыцьцё нашага народу. З гэтымі цёмнымі сіламі мы мусім змагацца і іх перамагчы.

Калі мы усё зразумеем, што падставаю перамогі зьяўляецца наша нацыянальнае адзінства, тады ня будзе мейсца сярод нас людзям, што ухітраюцца стаяць у баку змаганьня і адначасна жадаюць як мага больш выцягнуць асабістых выгадаў, але нічога не укладаюць у нашу агульную справу.

Хто яшчэ ня зусім добра зразумеў нашыя мэты і задачы, той хай знойдзе у сабе пачуцьцё дысцыпліны, каб слухаць іншых. Але хіба нашыя задачы незразумелыя? Хіба ня усім беларусам патрэбнае шчасьлівае жыцьцё, свая зямля і воля? Бясспрэчна, усім.

І дзеля гэтага мы усе мусім ісьці на фронт змаганьня супроць нашага агульнага ворага. Вораг робіць наступ на нашу сьвятую зямлю. Ён нясе з сабой тэрор НКВД, свае пяцігодкі, свае калгасы, свой гвалт і жахі, што мы ужо пераажылі. Ён хітрай вужакаю хоча абвіць наш народ, каб яго схапіць у свае брудныя лапы і потым зьнішчыць усіх, хто выпрабаваў новае жыцьцё без бальшавікоў і калгасаў.

Але бальшавізму ніколі больш не давядзецца быць на нашай сьвятой зямлі. Гэтага змаганьня ён ня вытрымае і згіне пад вытнямі нямецкае арміі і арміяў хаўрусных ёй эўрапэйскіх народаў.

Ніякіх перамогаў бальшавізм ня мае і ня будзе мець. Ягоныя уяўныя посьпехі — толькі вынік стратэгіі нямецкага камандаваньня і толькі.

Дзеля гэтага найважнай задачай усяго беларускага народу зьяўляецца напружаньне усіх сваіх сілаў на змаганьне з Масквой і ейнымі цёмнымі сіламі, бо толькі гэта гарантуе нам жаданую волю.

Мабілізуем-жа і умацуем наш дух для гэтага сьвятога змаганьня. Сьцьвердзім нашым ворагам, што мы адналітыя у нашай нацыянальнай сьведамасьці, што сярод нашага народу няма ахвотных ускласьці на сябе хамут бальшавізму.

Беларускі народ усёй сваёй гісторыяй неаднаразова сьцьвердзіў, што калі ён згуртаваны і адналітны, няма гэткае сілы, якая здолела-б яго перамагчы.

Толькі нашым змаганьнем будзе забясьпечаная воля Бацькаўшчыны.

*М. Ждановіч.*




**Школьніцтва у Баранавічах**

*У Баранавіцкай акрузе у гэтым годзе працуе 418 народных пачатковых школаў, 7 сярэдніх прафэсыйных, 71 сямігадовых. Яны ахопліваюць 48.369 вучняў і маюць больш за 1.100 настаўнікаў. Для падвышэньня кваліфікацыі настаўнікаў мінулым летам працаваў чатырохтыднёвы сэмінар. Дзякуючы самаахвярнай і шчырай працы настаўнікаў, школы забясьпечаныя патрэбнымі дапаможнікамі, сшыткамі і алалам, а вучні паказалі добрыя веды.*

**Новая інтэлігенцыя**

*У Глыбокім адбыўся ужо чацьверты выпуск настаўнікаў, што навучаліся на адмысловых шасьцімесячных курсах. Гэтым разам курсы скончылі 63 настаўнікі. Пры курсах разгортваецца і праца мастацкае самадзейнасьці, ладзіць выступленьні хор. У гэтым годзе у Глыбокім яшчэ зарганізаваны аграномічныя курсы з лікам курсантаў 57 і бухгальтэрскія курсы з лікам курсантаў — 55. На усіх курсах, апрача спэцыяльных дысцыплінаў, яшчэ выкладалася беларуская і нямецкая мовы, гісторыя і геаграфія Беларусі.*

**Тэхнічная школа у Баранавічах**

*З мінулага году у Баранавічах існуе чатырохгадовая сярэдняя тэхнічная школа. Ужо працуюць другая кляса і адзін курс трэйцяе. Пакуль мае ецца 70 вучняў. Настаўнікаў — 12. Як на практыку, гэтак і на тэарэтычныя заняткі асобна заплянаваны час па 24 месяцы. Адчыненыя у верасьні гэтага году майстроўні пры школе дадуць магчымасьць добра наладзіць працу практыкантаў. Майстроўня ужо вырабляе розныя рэчы хатняга ужытку, як радыёгаласьнікі і інш. У школе вывучаюцца, між іншага, такія дысцыпліны, як дарожнае будадаўніцтва, гэтак патрэбнае у нашай краіне.*

**Добры прыклад**

*З ініцыятывы беларускіх колаў у Слоніме, з дапамогаю падпісных лістоў, праведзеная зборка сродкаў на закуп твораў беларускага мастацтва для Музэю. Ужо у першыя дні зборка дала досыць сродкаў, каб набыць колькі абразоў і малюнкаў ведамага беларускага мастака сп. Карніцкага.*

---

*На вокладцы: Беларускія сяляне з Палесься (фота слонімскага мастака-фатографа Я. Шыманчыка).*

---

*Выдавецтва часапісу «Новы Шлях»: Менск, вул. Рагнеды 2, тэл. 21300. Галоўны рэдактар У. Сядура.*



За самаробнымі кроснамі беларуская сялянка вытыкае не толькі звычайнае палатно, але і дасканалыя, багатыя арнамэнтам рысунку, тканіны. (Фото мастака-фатографа Я. Шыманчыка.)




*Зьлева: Аляксандра Паваліні — часовы сакратар Італьянскай рэспубліканскай фашыстоўскай партыі.*



*Унізе: Работнікі нямецкага працоўнага абавязку на Усходзе. З мясцовага будоўлага матар'ялу можна пабудаваць добры дом.*



*Унізе справа: Лётнік хуткага самалёта-зьнішчальніка перад вылетам.*



*Усе маладыя людзі, ня гледзячы на іхнае паходжаньне, адбываюць працоўны абавязак, які, умацоўваючы у іх дух сяброўства, падрыхтоўвае гэтых маладых людзей да далейшага жыцьця, да далейшае творчае працы.*



*Зьлева:* Ліст з другога адрэзку фронту. У сьмешнай форме сябра апісвае перамогі над ворагам.

*Зьлева увізе:* Часінаю зацішша на хуткім вадаплаве пасьля пасьпяховага бою.

*Увізе:* Правадыр працоўнага абавязку Гірл наведаў у Сафіі магілы баўгарскіх жаўнераў.

*Справа:* Генэрал-обэрст Дзітл вітае фінскага хлопчыка выведніка.









*Для адбудовы дарогаў на усходзе з адпаведных мейсцаў бярэцца жвір. Работнікі працоўнага абавязку устанаўляюць чыгунку для адвозу жвіру з кар'еру на мейсца будоваў.*

# ДВАЦЦАТЫЯ УГОДКІ НЯМЕЦКАГА РАДЫЁ



Да самага значнага цуду тэхнічнага веку можна залічыць радыё. Чалавек хутка забываецца на паходжаньне рэчаў, што робяцца звыклымі. Калі, націскаючы на звычайную кнопку, мы маем магчымасьць пачуць усё, што адбываецца у сьвеце, то несправядліва будзе ня думаць пры гэтым аб крыніцах гэтага цуду. Праўда, разьвіцьцё тэхнікі у галіне радыё адбылося у гэткім хуткім тэмпе, што дасканальства радыёпрыйманьня і адпраўленьня для няўдзельных у тэхніцы людзей засталося мала заўважаным.

Перад пачаткам вайны пэрыядычна адбываліся выстаўкі, прысьвечаныя найноўшым дасягненьням у галіне радыёвае тэхнікі. Трэба прызнаць, што колькі дзясяткаў тысячаў людзей з усяго сьвету жыва цікавілася таямніцамі радыёвае тэхнікі і у ролі простых мэханікаў-аматараў дасягнула у гэтай галіне значных посьпехаў. Гэты факт надзвычай характэрны для вытлумачэньня бадай магічнае сілы узьдзейнічаньня тэхнікі на людзей, злучанай з разьвіцьцём радыё-справы.

Нягледзячы на тое, што чалавецтву унутраная аснова, гэта значыць фізыкатэарэтычнае разуменьне, назаўсёды застаецца незразумелым, яно інтуітыўным шляхам знайшло вытлумачэньне на пытаньні радыё-перадачы нават з сухазем'я на сухазем'е, што можна растлумачыць толькі выключнай цікавасьцяй да гэтай праблемы.

Бальшыня людзей, аднак, аднеслася да радыё-цуду ня з боку навуковага мышленьня, але з боку духовае інтуіцыі, што удзячна прыймае музычныя павучальныя і цікавыя у праводжаньні часу забавы. Што да разьвіцьця радыё у галіне гэтак званага баўнага «праводжаньня часу», то трэба зазначыць, што пры гэтым перш-на-перш бяруць увагу не на тэхнічныя і арганізацыйныя посьпехі, а на вонкавае афармленьне праграмы.

Праграма радыё-перадачаў зьяўлялася асяродкам грамадзкае зацікаўленасьці. З гэтае прычыны нямецкае радыё, асабліва з 1933 году, калі ягонае значаньне у ролі культурнага фактара паміж гаспадарствам і народам кажнага дня павялічвалася, узяло асаблівую увагу менавіта на укладаньне праграмаў.

Спачатку асобныя перадачы замяняліся адна другой нездавальняюча паводля якасьці і выбару. Мы ня у стане прасачыць бясконцыя спробы і досьледы, што да як мага лепшага узгадненьня і выба-

*Зьлева: Сымбаль 20-х угодкаў — антэнавая шчогла радыёстанцыі нямецкае дзяржаўнае пошты.*

*На здымку: Галоўны дыктар нямецкага радыёфону доктар Рау ля мікрафону. У ягоныя абавязкі уваходзіць перадача найважнейшых паведамленьняў і чытаньне перадавых артыкулаў дзяржаўнага міністра Гебэльса, што друкуюцца у тыднёвай газэце «Дас Райх» (Дзяржава).*

ру радыё-перадачаў — усю працу, праробленую у ваднове радыёвага аддзелу да пачатку вайны.

У самым пачатку разьвіцьця радыё у Нямеччыне лік слухачоў быў надзвычай вялікім. У 1929 годзе ён станавіў 2,8 млн., што ладна перавышала лік слухачоў у Ангельшчыне. Першая сэрыя выпушчаных у траўні 1933 году нямецкіх агульнадаступных радыё-прыймальнікаў была сустрэтая народам з вялікай цікавасьцяй. Ужо у сьнежні гэнага-ж году сярод жыхарства было разьмеркавана 500.000 гэтых апаратаў.

Няма сумліву — гэты апарат значна прычыніўся да папулярызацыі нямецкага радыё, якое сяньня мае 16.000.000 слухачоў, што зьяўляецца рэкордным лікам і мáе вялікае значаньне. І гэта у той час, калі у іншых краінах завярбоўваюцца слухачы толькі з дапамогаю гучнае прапаганды.

Хто у першыя годы нашага веку знаходзіўся на школьнай лаўцы, той быў сьветкаю і удзельнікам новых вынаходтваў у фізыцы. У навуцы аб электрычнасьці ён атрымаў першае паняцьце аб бяздротавым тэлеграфе, што стаўся у далейшым падставай для найцікавых вынаходтваў навукі.

Хто з падросткаў не спрабаваў рабіць усялякія досьледы пераробкі знакаў бяздротавага шляху? І калі шчасьліўцу даводзілася дасягнуць посьпеху, дык цуда магічнага і таямнічага сьвету адразу-ж дэманстравалася сёстрам і бацькам. Індуктар сярэдняе сілы і напоўненая парашком нікелю шкляная трубачка, што знаходзіцца паміж двума электродамі, былі дастатковымі для досьледаў на вынаходзтва прыродных таямніцаў, будучае значаньне якіх толькі выпадкова здагадвалася. Тым-жа часам навуковыя дасьледзіны ішлі сваім шляхам. У 1889 годзе зробленыя досьледы аб характары электрычных хваляў, сталіся, разам з вынайдзенымі у 1898 годзе уласьцівасьцямі вакуумных трубаў, падставай да разьвіцьця радыё-тэхнікі, у драбніцах якой нашым часам разьбіраюцца толькі спэцыялістыя.

У тэхніцы радыё-перадачы навуковыя дасягненьні даканалі найвялікшага ужытку. З дапамогаю найдакладнай арматуры самае чульлівае вуха толькі з цяжкасьцяй зловіць розьніцу паміж беспасярэднімі слухамі і радыёперадачай праз мікрафон.

20 год таму, калі 29 кастрычніка 1923 году бэрлінскае радыё перадало першы канцэрт, справа стаяла зусім інакш і дасягнутыя пазьнейшымі часамі палепшаньні тым часам здаваліся немагчымымі. Удасканаленьне і палепшаньне радыётэхнікі і установа бязьлікіх радыёстанцыяў, што знаходзяцца у распараджаньні нямецкага дзяржаўнага радыё, дасягнулі найвялікшага разьвіцьця, і радыё у цяперашні час зрабілася гэткім моцным, каб выканаць усе тэхнічныя заданьні будучага.

*Справа: Архіў грамафонных плітак нагадвае сабою кáзачны сьвет. На вялізарных паліцах разьмешчаныя жывыя гукі — «кансэрвы гукаў і шумаў».*





*Віцэадмірал Лютцаў ужо ад пачатку вайны праводзіць сыстэматычныя перадачы аб вайне на моры.*


Сяляне-беларусы вёскі Бубаль-Лукавіска (Падляшша) на курсах беларусазнаўства.


Цэркаўка пры Яблачынскім праваслаўным манастыры на Падляшшы.


Базыльлянскі касьцёл у Белай, на Падляшшы, фундатарам якога быў Кароль Станіслаў Радзівіл. Памятка з 1690 г.

# ПАДЛЯШША

Падляшша — вялікая пяшчаная плошча, густа ператыканая лясамі, з шматлікімі вазёркамі, парэзаная рэчкамі і ручайкамі. Сам назоў гэтае плошчы — Падляшша — вельмі просты, які адным сказам акрэсьлівае, што тут жывуць не палякі, ляхамі празываныя, а беларусы у суседзтве з ляхамі, пад ляхамі.

Што першыя паселішчы Падляшша былі беларускімі выразна аб гэтым сьветчаць хоць-бы назовы рэчак, вёсак і мястэчак. Для прыкладу падамо тут колькі: рэчка Крывулька, Красная (за палякоў Кшна). З вёсак: Вітарож (Вітаўта рошча), Даўга, Дакудава, Вішнеў, Вішніцы, Востраў, Камароўка, Харошчынка, Касьцяневічы, Палоскі, Кабыляны, Гушча і шмат іншых. Пры гэтым трэба зацеміць, што шмат назоваў вёсак, сустраканых на Падляшшы, ёсьць у самай Беларусі. Прыкладам: Вішнеў на Падляшшы і Вішнеў у Наваградчыне (пав. Валожын), Дакудава на Падляшшы і Дакудава у Лідчыне, Забалацьце на Падляшшы і Забалацьце у Лідчыне і Вялейшчыне, Востраў на Падляшшы і Востраў у Баранавіччыне, у Глыбочыне ды Горадзеншчыне, Касьцяневічы на Падляшшы і Касьцяневічы у Вялейшчыне і г. д.

Ужо у пачатку XI ст. Падляшшам правяць беларускія Турава-Пінскія князі, а у 1005 г. існуе ужо на Падляшшы тураўская праваслаўная эпархія, у склад якой уваходзіць і берасьцейская зямля.

У 1258 г. землі Берасьцейская і Мельніцкая цалкам далучаюцца да палітычнага беларускага цэнтру у Наваградку. Апрача гэтага, год за годам, з малымі прамежкамі, вядуцца лёкальныя войны з захопніцкім, суседнім ляшскім плямём. Калі адбіваючы, калі ізноў пакідаючы свае сялібы, кормячы родную зямельку крывёй ды трупамі, бароняць беларускія князі Падляшша ад захопніцтва палякамі. Ня раз, будучы падбітымі, бунтуюцца і выступаюць з зброяю у руках супроць наезных ляхаў ды мазураў. Ужо у 1350 г. адважна выступаюць беларусы Падляшша і праганяюць мазуроў з сваіх палеткаў. Аднак, спрэчкі з ляхамі аб валаданьні Падляшшам вядуцца праз даўгія гады. І толькі трактатам 1366 г. Падляшша рашуча затрымоўваецца пры беларусох (Вялікім Княсьцьве Літоўскім). Далей пастанова Люблінскае Вуніі 1569 г. таксама выражае, што Падляшша, сучасны павет Белая, застаецца і надалей пад валаданьнем беларускіх князёў Вялікага Княства Літоўскага (Беларускага).

Як герб Падляшша, ужо у вактах Люблінскае вуніі (1569 г.) бачым беларускую Пагоню нябескага колеру на чырвоным полі.

Сам факт княжаньня на Падляшшы беларускіх князёў (прыкладам: Радзівілы, Сапегі, Гальшаньскія, Кішко, Шуйскія, ды інш.) даводзіць, што зямля Падляшша — гэта родная зямелька усяго беларускага народу.

Далейшы цяг жыцьця Падляшша з малымі выняткамі амаль ня розьніцца ад усяе гісторыі беларускае дзяржавы (Вялікага Княства Літоўскага). Праўда, ад часу Берасьцейскае (царкоўнае) вуніі 1596 г. беларусы Падляшша больш церпяць зьдзекаў і перасьледаў за сваю беларускасьць ад палякоў, чымся усходняя або паўночная частка беларускае дзяржавы. Царкоўная вунія у Берасьці шырака расчыніла дзьверы польскаму уплыву на беларускае Падляшша.

Падляшша, як адно з найбольш высунутых на захад паселішча беларусаў, нямала зносіць няшчасьцяў і цярпеньняў ад варожа настаўленых польскіх магнатаў, якія з дапамогаю розных хітрыкаў і подступаў праводзяць паланізацыю, пасяляючы касьлявых мазуроў на чыстых беларускіх абшарах. І тыя-ж каланістыя

мазуры, як гады, цiснуцца на новы, ласы кусочак беларускае зямелькi, каб пасьля магчы апанаваць ёю i трапiць у склад кароны — Польшчы. Наступныя польскiя уплывы XVII—XVIII ст. моцна паралiжуюць беларускую культуру, што шырака расьцьвiла ня толькi на Падляшшы, але i ва усiм беларускiм княсьцьве.

Пастановай з 1795 г. iзноў Падляшша трапляе у цяжкiя абставiны, бо адлучаецца ад беларускага сьцябла i пераходзiць пад апеку тагачаснае Аўстрыi.

I толькi з 1815 г. неразарвальна з усёй Беларусяй апыняецца зноў пад варожай апекай царскае Расеi. Падляшукi iзноў супольна з цэлым беларускiм народам трапляюць у новы палон, мацнеючы i чакаючы адпаведнага мамэнту, каб пасьля са зброяю устаць i паказаць сваё самастойнае быцьцё. I Польшча, i царская Расея, а пазьней i чырвоная Маскоўшчына былi зацiкаўленыя у зьнiшчэньнi беларусаў, як нацыi.

Як бачым, з рук у рукi пераходзiць беларускае дабро Падляшша. Як адны, гэтак i другiя не ашчаджаюць нашага дабра i культуры, а усялякiмi спосабамi стараюцца яе зьнiшчыць i выцясьнiць нас з роднае зямелькi.

Рыскi мiр адрывае Падляшша ад цэласьцi i беларуская дзейнасьць, здаецца, зусiм замiрае. Падляшша трапляе у сфэры польскiх уплываў. Ня маючы нiякае сувязi з цэнтрам культурнага жыцьця заходняе Беларусi — Вiльняй, як абток, адгароджаны вадою, Падляшша трапiла у польскiя лапы. Палякi патрапiлi забраць усё, што звалася беларускiм. Не даючы нават малейшае асьветы у роднай мове, не гаворачы ужо аб вышэйшых цi сярэднiх школах, Падляшша застаецца асуджанае на зьдзiчэньне, цi, iнакш сказаўшы, на спалянiзаваньне. Старанна зацiраюцца усялякiя сьляды беларускасьцi. Выкiдваюцца з ужытку словы беларус, Лiтва, нават «тутэйшы» — гэты дыплёматычны сказ беларускага селянiна. Гвалтоўна перарабляюцца цэрквы на касьцёлы, або проста разбураюцца, а матар'ял прадаецца жыдам. Гвалтоўна праводзiцца зьмена назоваў вёсак, сёлаў, мястэчак, а у гарадох — назовы вулiцаў. Палякi зьдзекваюцца над беларусамi, ня могучы iм дараваць iхных чыста беларускiх прозьвiшчаў i сьлядоў беларускае, высака стаячае культуры.

Слабыя адзiнкi Падляшша гiнуць, або робяцца, з прычыны абставiнаў, янычарамi свайго народу, або проста зьлiваюцца з ворагам i працуюць на ягоную карысьць. Адзiнкi ахвярныя, што любяць свой родны народ, хутка палякамi лiквiдуюцца.

Забiраючы i лiквiдуючы усё, мовы беларускае на Падляшчыне палякi не патрапiлi зьлiквiдаваць. Не замоўкла беларуская мова i ад лiквiдацыi беларускiх школаў. Закаранелы беларускi падляшук моцна трымаецца свае роднае мовы, ён падтрымлiваецца беларускiмi народнымi песьнямi, абрадамi i звычаямi, якiя захавалiся яшчэ i да сяньняшняга дня.

I атрымалася гэтак, што беларускiя народныя песьнi, абрады i звычаi сталiся мацнейшымi за гумовыя палкi польскiх палiцыянтаў, пратаколаў, штрафаў, параграфаў, установаў i розных артыкулаў.

Яскрава паказалi палякi, асаблiва у вапошнiя гады свайго iснаваньня, — што «Польска не жондэм стоi».

Не зважаючы на жорсткiя расправы польскiх катаў, беларускi народ не пакiдаў лятуцець аб вольным, незалежным жыцьцi. Праўда, доўгая няволя пакiнула па сабе сьляды. Аднак, з першых дзён лiквiдацыi гэтых катаў, Падляшша устала на ногi. Народ спакойна узяўся за аднаўленьне нармальнага жыцьця. Ён зразумеў патрэбу адбудовы Новае Эўропы, дзе i беларусы, як немалы народ, зоймуць належнае мейсца.

*Ст. Карнэлюк*



*У дзень парафiяльнага сьвята у Яблачынскiм праваслаўным манастыры.*

# АФРАСIНЬНЯ ПОЛАЦКАЯ

*(у 770-я угодкi ейнае сьмерцi)*



*Гiсторыкi мяркуюць, што самастойнае славяна-беларускае пiсьменства iснавала у нас ужо у XI стагодзьдзi, але выдатныя пiсьменьнiкi гiсторыi ведамыя толькi з XII стагодзьдзя. У гэтым першае мейсца належыць Полацкай князёўне Прадславе, якая шмат папрацавала для разьвiцьця i пашырэньня культуры i пiсьменства.*

*Прадслава нарадзiлася у 1102 г. (?) у Полацку. Была яна дачкою Полацкага князя Сьвятаслава-Юрага, а унучкаю слаўнага князя Усяслава Чарадзея ( памёршага у 1101 г.). На 12-м годзе жыцьця Прадслава уцякла ад бацькоў i замуства у манастыр, дзе сталася манашкай i прыняла хрысьцiянскае iмя Афрасiньнi. У манастыры Афрасiньня вяла дужа суровы i набожны характар жыцьця. У вольныя часiны перапiсвала сьвятыя кнiгi, вышывала аблачэньнi, пасылаючы гэта усё бяднейшым цэрквам i манастырам.*

*Па нейкiм часе каля Полацку, у двары Сяльцо, Афрасiньня заснавала жаноцкi манастыр i адчынiла там школы i прытулкi. У свой манастыр Афрасiньня брала пiсьменных манашак, якiя перапiсвалi кнiгi i вучылi дзяцей. Пазьней Афрасiньня у манастыры збудавала мураваную царкву сьв. Спаса (першая на Беларусi мураваная царква), а недалёка ад свайго манастыра заснавала мужчынскi манастыр. Для абодвых манастыроў Афрасiньня сама напiсала статуты. Мураваная царква сьв. Спаса захавалася аж да бальшавiцкiх часоў.*

*Гэтая заслужаная i працавiтая князёўна пад канец жыцьця пайшла адведаць гроб Спаса у Ерусалiме, дзе нейкi час пажыўшы, памёрла 23. V. 1173 г. У Ерусалiме была i пахаваная. Астанкi ейныя потым былi перавезеныя у Кiеўскiя Лаўры, дзе праляжалi 7½ стагодзьдзяў. У 1910 г. прывезьлi iх у родны Полацак. Афрасiньню пасьля сьмерцi кананiзавалi i залiчылi у сьвятыя праваслаўнай царквы.*

*Дзе сяньня астанкi гэтай апосталкi i прасьвяцiцелькi Беларусi — няведама.*

*У. Паўлюкоўскi.*




**СЦЭНІЧНЫ ГРОТЭСК У ШАСЬЦЁХ АБРАЗКОХ З ПРАЛЁГАМ**

## АБРАЗОК ШОСТЫ

АСОБЫ:
Альхэмік
Сыльвук
Старая Ведзьма
Агапка
Чорт закаханы
Чорт у кунтушы
Ксёндз
Поп
Далакоп
Сталяр
Першы Шляхціч
Другі Шляхціч
Трэйці Шляхціч
Рыцар
Народ

*Перад домам Альхэміка. Праз вузкія адчыненыя дзьверы відаць цёмныя сходні нагару. Над дзьвярыма балькончык.*

Сыльвук
*(сядзіць на лавачцы каля дзьвярэй, грае на гітары і пяе)*

Сеў-жа я на лаваньцы і ножанькі падабраў, ты мяне спалюбіла і я цябе спадабаў; ты мяне спалюбіла, ты-ж мяне спадвяла, ты-ж мяне маладога ў каморачку завяла.

*(гаворыць)*

Эээх! Гэтулькі ёсьць у Вільні прыгожых дзяўчат, а ў мяне няма ніводнай!... Зусім інакш у іншых хлапцоў... Кажны мáе сваю дзеўку, мáе да каго прытуліцца, абняць, пацалаваць... А ў мяне — нікагусенькі.

А гэта ўсё дзеля таго, што адвагі я ня мáю. Ня ведаю, як да дзяўчыны падыйсьці, што ёй казаць.

І чаму гэта хлапцы павінны да дзяўчат падлабуніваццa, а не дзяўчаты за хлопцамі увіхацца?... Вось каб цяпер прыйшла сюды нейкая прыгожанькая дзяўчынанька і сказала проста: Сыльвук! я цябе спалюбіла — і канец!... Бо я, далібог, ня ведаю, як брацца за гэтую справу.

Голас Альхэміка
*(за сцэнай)*

Сыльвук!

Сыльвук
*(устае, кладзе гітару на лаўцы)*

О! ужо дохтар мяне кліча... Няма нават калі крыху палятуцець аб дзяўчатах!

*(ідзе па сходнях нагару)*

Ведзьмы
*(уваходзяць)*

Старая Ведзьма
*(да Агапкі)*

Вось ён тутака заўсёды, як Альхэміка няма, на лавачцы адзін сядзіць ды на гітары ўсьцяж бранчыць...

Ты ціха неяк падыйдзі і пастарайся кручком гэтым кафтан ягоны зачапіць...

*(дае Агапцы кажáнаву костачку)*

Яго зачэпіш — будзе твой, і з задурэўшай галавой ён безь цябе ня зможа жыць. Ён за табой на канец сьвету, калі захочаш, пабяжыць; чаго захочаш, зробіць ўсё... такую сілу мáе гэта кажáнавая костачка!...

*(чутно, што па сходнях нехта ідзе)*

Хаваймося! нехта ідзе!... Каб не апынуцца ў бядзе!..

Альхэмік із Сыльвуком
*(уваходзяць)*

Альхэмік

Сыльвук! Я цяпер іду да бурмістра на банкет. З нагоды свайго выздараўленьня бурмістр на сяньня запрасіў гасьцей. Вярнуся, мабыць, няскора. Нікуды ня йдзі! пільнуй хаты! сядзі і глядзі, каб ніхто тут не ўвайшоў, ніхто каб бочкі не чапаў.

Сыльвук

Увесь час буду тут сядзець, спадара дохтара чакаць. Вачэй не заплюшчу ні на міг.

Альхэмік
*(пайшоў)*

Сыльвук

Добра было-б гэтак сядзець і чакаць, калі-б разам зь нейкай дзеўкай!...

Сядзіш гэтак зь ёю абняўшыся, а яна гэткая цёплая, мяккая!..

Эээх!..

> ### ШЭРЫМ РАНЬНЕМ
>
> *Аўген Ліпа*
>
> *Шэрым раньнем зіхціць, чырванее,*
> *З дрэваў сыплецца сумна лісьцё;*
> *На тужлівых пэйзажах квітнее,*
> *Апранаецца восень шмацьцём.*
>
> *Кроплі росаў блішчаць мігатліва,*
> *Цьмяным бляскам фарбуюць палі,*
> *А у небе ляцяць сіратліва,*
> *На чужыну ляцяць жураўлі.*
>
> *Распусьціліся доўгія косы*
> *Над срабрыстым люстраньнем вазёр —*
> *Гэта ціха сумуюць бярозы,*
> *Што згубілі вясновы убор.*
>
> *Ня хістаюцца хвоі у шоўку,*
> *Над вадою чарот не шасьціць,*
> *На'т і вецер ад жалю замоўкнуў,*
> *На'т і сонца ня хоча сьвяціць.*
>
> *Шэрым раньнем трапечацца, зьзяе,*
> *З дрэваў долу мкнучыся лісьцё..*
> *Толькі сэрца у мроях хавае*
> *Лета ціхага казку — жыцьцё.*

А на сьвеце так добра, хораша, прыгожа, цёпла... Цяпер вясна, бэзы цьвітуць, птушачкі пяюць...

*(чутно пяяньне салаўя)*

Во! саловушка пяе! птушачка і тая мáе патрэбу каханьня... Пяе бедненькая! Кліча да сябе сваю мілую... А каго паклічу я? Нікога ў мяне няма! Бедны Сыльвук! А дзяўчат на сьвеце шмат! А я адзін!

*(бранчыць на гітары і пяе)*

Сеў-жа я на лаваньцы і ножанькі падабраў, ты мяне спалюбіла і я цябе спадабаў...

Эээх!

*(перастаўшы пяяць, гаворыць)*

Каб-жа гэтак прыйшла нейкая і сказала: люблю цябе!.. А я ёй таксама кажу: люблю цябе!.. Пасьля цалую яе, а яна мяне цалуець... Уух! кіну ўсё і паляту шукаць нейкай!.. Але каго? Дзе шукаць? Хто да мяне пойдзе! Сьмяяцца будзе!..

Эээх!

Ведзьмы
*(уваходзяць пад канец гэтага маналёгу незаўважна для Сыльвука)*

Старая Ведзьма
*(мімічна кажа Агапцы, каб яна зачапіла яго костачкай, і хаваецца за кулісы)*

Агапка
*(падыходзіць да Сыльвука)*

Выбачайце... замарылась... Ці можна сесьці на хвіліну і супачыць тут каля вас?

*(сядáе)*

Сыльвук
*(усьцешыўся)*

Ах, калі ласка, ня хвіліну, прашу сядзець і шмат даўжэй!.. З гэткай прыгожанькай дзяўчынай час праляціць мне весялей...

Я пры дзяўчатах баязьлівы, але пры вас я так шчасьлівы...

Агапка

Дык можа мне пайсьці дахаты, калі ня любіце дзяўчат?

Сыльвук

Наадварот, я вельмі рад...

Агапка
*(зачапляе за ягоны рукаў кажанавай костачкай)*

Сыльвук
*(заўважыўшы гэта)*

Што гэта? што ў руцэ у вас?

Агапка

Прыгожы мáеце кафтан...

Сыльвук

Мне падарыў яго мой пан... Ужо працёрся на лакцях... А у вас прыгожы гэты...

*(хоча дакрануцца да ейнай вопраткі, але ня важыцца)*

Ох! не магу! мне проста страх!..

Агапка

Чаго?

Сыльвук

Ох, не магу!.. Гарачыня! Мне горача пры вас сядзець!

*(заплюшчвае вочы)*

Агапка

А мо' перашкаджаю я?.. Нават ня хочаце глядзець!.. Дык я магу пайсьці дамоў. Пайду з вачэй вашых далоў...

Сыльвук

Ох, ня ідзеце! пасядзеце!.. Мой спадар на баль пайшоў... Мабыць, што вернецца ня хутка, дык можам пасядзець мы тутка ажно да раньня, да сьвітаньня.

Агапка

Ох, як я змарылась сяньня, аж галава мне закружылась...

*(апірае галаву на плячо Сыльвука)*

Сыльвук

*(раптам абыймае яе і цалуе)*

Няхай-жа кружыцца бяз конца! Ох, як добра, як салодка! Ґэтак хай да ўсходу сонца не адкружаецца галоўка!..
Ох, як добра!

Агапка

І мне добра пры вашэці.

Сыльвук

Ах, як добра дзеўку меці!..
Прашу вас... яшчэ раз...

*(цалуюцца)*

Агапка

Як вас клічуць?

Сыльвук

Сыльвук. А вас?

Агапка

Агапка.

Сыльвук

Агапка! мая Агапка!..

*(пяе)*

Мая Агапка! мая галубка!
мая ты радасьць! чароўны сон!
Калі-б я князем быў, маю любку
я пасадзіў-бы на княжы трон.

Калі-б я птушкай быў дужакрылай,
цябе панёс-бы у іншы край,
і палящеў-бы са сваёй мілай,
вясна дзе вечна, дзе вечны май.

*Дуэт:*

Сыльвук

Ня маю нават я собскай хаткі,
зь бядой спазнаўся ўжо змалку дзён,
дык для міленькай маёй Агапкі
у сваім сэрцы збудую трон.

Агапка

*(пяе разам із Сыльвуком)*

Ня маеш нават ты собскай хаткі,
зь бядой спазнаўся ўжо з малку дзён,
дык для міленькай сваёй Агапкі
у сваім сэрцы збудуеш трон.

Агапка

*(гаворыць)*

Ты казаў, што твой спадар пайшоў да бурмістра на баль?

Сыльвук

Але.

Агапка

Дык мы баль таксама зладзім!

Сыльвук

Эх! Нічога не наладзім, не парадзіш, хоць ты трэсьні! Для банкету шмат патрэба, а ў мяне няма нічога, толькі ёсьць кавалак хлеба, ды халодная яешня у пагасшай стаіць печы. Дык пры гэтакай галечы банкет ладзіць не да рэчы.

Агапка

А я нешта з сабой маю...

*(паказвае нейкі клумачак)*

Сыльвук

Што гэта?

Агапка

Цынамон, мускат, гвазьдзікі... а вось мёду ёсьць гаршчок.

Сыльвук

Мне трудна скарыстаць з пазыкі, бо скуль аддаць табе-б я мог?

Агапка

Нічога аддаваць ня будзеш, за тое сьпірту раздабудзеш, — і зварым ў печачцы тваей мы гэткі крупнік, што ой-ей!

Сыльвук

О! крупнік вельмі я люблю, але з чаго-ж яго зрабіць?

Агапка

Ня маеш сьпірту ані крышку?

*(Заканчэньне будзе.)*



(Малюнак П. Сергіевіча.)

*Сыльвук: ...«Мая Агапка, мая галубка! мая ты радасьць!»...*

# Нямецка-беларускія размовы

**Абазначэньне вымовы нямецкіх словаў беларускімі літарамі:**

а:, э:, і:, у:, о: — вымаўляць працяжна;
г' — як г у слове ганак ці лацінскае g;
ю̈ — як і, але з выцягнутымі вуснамі;
ӧ — як э, але з выцягнутымі вуснамі;
нᵍ — як н, але вымаўляць праз нос;
усе іншыя літары — як і беларускія.

Morgen werden wir Frost haben (мо́рг'эн вэ́:рдэн ві:р фрост га́:бэн). — Заўтра будзе мароз.

Es schneit, es hagelt (эс шнайт, эс га́:г'эльт). — Ідзе сьнег, ідзе град.

Es blitzt, es donnert (эс бліцт, эс до́нэрт). — Бліскае (маланка), грыміць (гром).

Es ist sehr schmutzig draussen (эс іст зэ:р шму́ціхь дра́ўсэн). — Вонках вельмі брудна.

Die Sonne scheint, aber es ist sehr kalt (ді зо́нэ шайнт, а́бэр эс іст зэ:р кальт). — Сонца зьзяе, але вельмі сцюдзёна.

Es friert, es taut (эс фрі:рт, эс таўт). — Марозіць, адліга.

Es regnet stark (эс рэ́:г'нэт штарк). — Ідзе буйны дождж.

Wollen Sie den Regenschirm nehmen (во́лен зі: дэ:н рэ́:г'эншірм нэ́:мэн)? — Ці вы хочаце узяць парасон?

Der Regen hört auf (дэр рэ́:г'эн гӧ:рт аўф). — Дождж ціхшэ.

Die Sonne beginnt sich zu zeigen (ді: зо́нэ бэг'інт зіхь цу ца́йг'эн). — Сонца зноў пачынае паказвацца.

Das Wetter wird besser (дас вэ́тэр вірд бэ́сэр). — Надвор'е паляпшаецца.

Es ist neblig (эс іст нэ́:бліхь). — Хмарна.

Was zeigt das Barometer (вас ца́йкт дас бароме́:тэр)? — Што паказвае барометар?

Das Barometer steht auf „schön" (дас бароме́:тэр штэ:т аўф шӧ:н). — Барометар стаіць на „прыгожа".

Die Sonne geht auf, geht unter (ді: зо́нэ г'э:т аўф, г'э:т у́нтэр). — Сонца усходзіць, заходзіць.

Es ist ganz finster (dunkel) (эс іст г'анц фінстэр, ду́нᵍкэль). — Зусім цёмна.

Heute ist es ausserordentlich heiss (гӧ́йтэ іст эс аўсэрó рдэнтліхь гайс). — Сяньня надзвычайна горача.

Die Sonne brennt fürchterlich (ді: зо́нэ брэнт фю̈рхьтэрліхь). — Сонца страшэнна пячэць.

**Der Besuch** (дэр бэзу́:х). — **Адведзіны.**

Es klopft, es klingelt jemand (эс клӧпфт, эс клінг'эльт е́:мант). — Нехта стукае, звоніць.

Sehen Sie, wer da ist (зэ́:эн зі: вэ:р да: іст). — Паглядзіце, хто там ёсьць.

# Вандроўны Тэатар Галубка

У гісторыі сучаснага беларускага тэатру ёсьць два імёны, што заслугоўваюць асаблівае пашаны. Гэта беларускія драматургі і стваральнікі новага беларускага тэатру, беларускія Мальеры — Францішак Аляхновіч і Уладыслаў Галубок. Гэта іхная яшчэ першапачатная актыўная чыннасьць і як аўтараў драматургічных твораў, і як рэжысэраў і актораў, адміністратараў і пастаноўшчыкаў зьявілася падставаю для стварэньня пазьней сталых беларускіх тэатраў.

У часы, калі апрача колькіх невялічкіх камэдыяў Дуніна-Марцінкевіча, Каганца і колькіх іншых ня было вартаснае драматычнае літаратуры, яны выступілі з шэрагам драмаў і камэдыяў, што са сцэнічнага боку і колькасна і якасна ужо куды вышэй стаялі за усю папярэднюю драматычную літаратуру.

Як некалі Мальер у Францыі тварыў клясычны тэатар, даючы яму разнастайнабагаты рэпэртуар, гэтак і нашыя беларускія Мальеры — Галубок і Аляхновіч — узьнялі на адпаведнае узвышша традыцыі беларускага тэатру і зрабілі яго сэнсам усяго свайго жыцьця і дзейнасьці.

Усебаковасьцяй свае тэатральнае чыннасьці яны заслужана могуць параўноўвацца з многімі дзеячамі эўрапэйскага тэатру часоў ягонага адраджэньня, калі тыя часта у ваднэй асобе спалучалі шмат якія ролі і былі адначасна за аўтараў, рэжысэраў, актораў, мастакоў і г. д.

Гэта з асаблівай яскравасьцяй выявілася у васобе Уладыслава Галубка.

Беларускі Вандроўны Тэатар паклікана да жыцьця вылучна чыннасьцяй самога сп. Галубка. Ён яго арганізаваў, надаў яму кірунак народнага вандроўнага тэатру, выхаваў акторскі склад, амаль выдучна адзін стварыў для яго багаты назовамі п'есаў рэпэртуар, і сваёй асобай кіраўніка і рэжысэра, актора і слаўнага драматурга рэпрэзэнтаваў яго.

Закладзіны гэтага тэатра адносяцца яшчэ да гадоў першае сусьветнае вайны і рэвалюцыі у Расеі, калі «Першае Беларускае Таварыства Драмы і Камэдыі» будуе сваю тэатральную працу пераважна на рэпэртуары, твораным У. Галубком. Праз пáру гадоў вылучаецца адмысловая трупа артыстых з былых аматараў тэатральнае справы, з якіх арганізатарскі і рэжысэрскі талент У. Галубка стварае свой асобны беларускі тэатар.

У адрознасьць ад Першага, а пазьней і Другога Беларускіх Дзяржаўных Тэатраў, якія абслугоўвалі пераважна гарадзкога гледача, тэатар Галубка ставіць сабе за мэту абслугоўваць самыя далёкія куткі Беларусі, выяжджае з паказамі у маленькія гарады, мястэчкі, вёскі да сялянства і тут робіць вялікую справу нацыянальна-культурнага усьведамленьня. Тэатар Галубка ладзіць паказы у школьных будынках, клюбах, а не — дык і у сялянскіх пунях, стадолах, дзе аб тэатральнай сцэне і заслоне і ня прыходзілася казаць, і яны толькі умоўна уяўляліся акторамі пры дапамозе невялікага памосту.

Нескладаным тут было і сцэнічнае афармленьне. Ня маючы магчымасьці вазіць з сабой патрэбнага рэквізыту і дэкарацыяў, на вёсках паказы часам ладзіліся і зусім бяз сцэнічнага абсталяваньня. Аднак усюды, дзе тэатар быў навіною, ягоныя паказы рабілі вялікае ураженьне. Нераспешчаны тэатральным мастацтвам вясковы глядач быў непатрабавальным. Ён усюды з вялікім энтузіязмам прыймаў ягоныя паказы і кажны прыезд тэатру быў вялікім сьвятам у народзе. Ягонае мастацтва настолькі бесспасярэдня успрыймалася тагачасным правінцыяльным гледачом, а абставіны сцэнічнае працы тэатра Галубка часам былі нагэтулькі спрошчаныя, што гэта усё дало падставы праф. Вазьнясенскаму шукаць параллеляў у далёкай эпосе шэкспіраўскага тэатру у Ангельшчыне XVI ст.

Рэпэртуар Вандроўнага Тэатру складаўся пераважна з п'есаў самога Галубка. А як драматург, ён быў надта плённы і даў за параўнальна кароткі час да сарака п'есаў. Найбольшы посьпех мелі ягоныя п'есы «Ганка», «Плытагоны», «Бязродны», «Апошняе спатканьне», «Пінская мадона», «Васіль Хмель», «Пісаравы іменіны», «Падкідыш», «Пан Сурынта», «Помста», «Душагубы», «Залаты бог», «Князь Кацэргін», «Суд», «Людзі», «Праменчык шчасьця», «Дваяжэнцы», «Госьць з катаргі» і інш. Праўда, часамі ставіліся і п'есы другіх пісьменьнікаў, як Ф. Аляхновіча «Цені» ды ведамая «Паўлінка» і інш.

Аднак, найбольшая частка паказаў складалася з п'есаў Галубка. А трэба сказаць, што тэатар адразу-ж пасьля свайго узьнікненьня разьвіў шырокую дзейнасьць. Колькасьць паказаў штогоду расла. Гэтак, калі у першым годзе свайго існаваньня — 1920 г. — тэатар даў 42 паказы, дык у наступным — 1921 г. — ужо 173 паказы, у 1922 г. — 225, у 1923 — 253 і г. д.

Толькі у часе першага пяцігодзьдзя свайго існаваньня тэатар даў больш за тысячу паказаў і гэта ва умовах вандровак з мейсца на мейсца, калі шмат часу трацілася на дарогу, чаканьні, зборы, расстаноўку дэкарацыяў і г. д.

Асаблівай заслугай тэатра было тое, што ён зьяўляўся часта у гэткія мейсцы далёкіх куткоў Беларусі, дзе ніколі ня бачылі ніякага тэатра, і там у яркіх сцэнічных вобразах, што найбольш уражліва і наглядна уплываюць на чалавека, расчыняў перад гледачом сьвет людзкіх перажываньняў і ходаньняў за лепшае чалавечае жыцьцё.

Праца пераважна для сялянства вымагала ад Вандроўнага Тэатра, як запраўднага народнага тэатра, каб і рэпэртуар ягоны быў у поўным сэнсе народным. Чулы да народных патрабаваньняў У. Галубок і стварае свае п'есы у мэлёдраматычным стылі з натуралістычным адлюстраваньнем у іх сялянскага жыцьця. Усе ягоныя п'есы прысьвечаныя тэмам бытавога характару з жыцьця пераважна вёскі. Напісаныя жывой сакавітай народнай мовай, яны багатыя цікавымі нагляданьнямі над жыцьцём беларускага селяніна, разнастайнасьцяй тэматыкі, яркасьцяй і маляўнічасьцяй характэрных тыповых праяваў народнага жыцьця і паасобных сцэнаў.

У вадпаведнасьці з асаблівасьцямі мэлёдрамы У. Галубок умеў будаваць п'есу на рэзкіх кантрастах добрых і благіх пачаткаў і давесьці сюжэтнае разьвіцьцё фабулы п'есы да перамогі першых над другімі. Гэта адпавядала, як добра заўважыў прафэсар В. Тэпін*), патрабаваньням здаровага аптымізму народных масаў. Канечная перамога справядлівых, добрых, правільных намераў над дрэннымі, дадатных герояў над адмоўнымі, пададзеная праз яркія выйгрышныя сцэнічныя палажэньні, заўсёды выклікала бурныя воплескі у народнага гледача і прыносіла ведамасьць Тэатру Галубка.

Сваёй асобай У. Галубок адзін станавіў амаль-што цэлы тэатар. Ён быў і за пісьменьніка-драматурга, і за дырэктара Вандроўнага Народнага Тэатру, і за ягонага рэжысэра, і за мастацкага кіраўніка, і за актора-выканаўцу, і, урэшце, за дэкаратара-маляра: большасьць маляваных дэкарацыяў зробленыя працай самога У. Галубка.

Усебаковая адоранасьць, шматграннасьць ягонага духовага абліčча рабіла тое, што ён быў ініцыятарам і душою кажнага пачынаньня у Вандроўным Тэатры і часьцей усё у тэатры і рабілася ім самім. Штодзённая творчая чыннасьць на тэатры патрабавала шмат і надта шмат часу на кіраўніча-арганізацыйную і рэжысэрска-мастацкую працу. А рэпэртуарны голад патрабаваў усё новых і новых п'есаў, глядач жадаў бачыць у тэатры новыя драмы, камэдыі і г. д.

*) Успаміны «Уладыслаў Галубок» («Беларуская Газэта» № 4 (122) за 18 студзеня 1943 г.).



*Францішак Аляхновіч і Уладыслаў Галубок у 1918 годзе у Менску.*

Трэба было тварыць, як кажуць, «нахаду», паміж інтэнсыўнай штодзённай працай у тэатры, прысестамі, і тут-жа, можа дзе што і не дапісаўшы, ня гэтак, як належыцца, тонка і моцна разгарнуўшы дзею, толькі з большага накідаўшы сюжэтную лінію, расставіўшы герояў і запісаўшы дыялёгі, — пушчаць у працу: развучваць ролі з акторамі, рэпэтыраваць з усім калектывам. Тэатральны калектыў браў удзел і у далейшым апрацаваньні п'есы, рабіў аўтару тыя ці іншыя пара́ды, і аўтар у працэсе працы, у адпаведнасьці са сцэнічнымі вымогамі, рабіў папраўкі і тыя ці іншыя зьіначаньні.

Твораныя ва умовах тэатральнага жыцьця гэтыя п'есы і разьлічаныя для паказу на сцэне, яны былі сцэнічнымі у лепшым сэнсе гэтага слова. Але затое-ж яны у бальшыні гэтак і заставаліся у рукапісным выглядзе і невядома ці захаваліся да сяньня, бо надрукаваныя з іх толькі некаторыя. Наагул трэба зацеміць, што яны і не заўсёды мелі зусім закончаны выгляд, аўтар кажны раз перарабляў іх нанова, уносіў шмат зьіначаньняў з увагі на гледачовыя пара́ды.

Дзякуючы надзвычайна інтэнсыўнай творчай працы У. Галубка і як драматурга, ягоны тэатар заўсёды меў новую беларускую арыгінальную п'есу і ніколі не цярпеў ад агульнага рэпэртуарнага голаду. Гэта-ж надавала тэатру чыста-беларускі твар і кірунак ягонай працы.

Тэатар Галубка ніколі не карыстаўся перакладным расейскім рэпэртуарам, рознымі пазадкамі расейскай сцэны. Гэта быў у поўным сэнсе самабытны, арыгінальны беларускі тэатар са сваім собскім асобным рэпэртуарам. Таму такой вялікай пашанай і любоўю у народзе і карыстаўся ён. Гэта быў свой родны зьместам і формаю, самы блізкі і даступны шырокім колам беларускага народу тэатар. А ягонай душою, натхненьнем быў сам Уладыслаў Галубок. Нездарма пра яго гаварылі як пра «сынтэз беларускага тэатру».

Уладыслаў Галубок і як драматург і як актор-рэжысэр дайшоў да свайго мастацтва шляхамі самавуцтва.

Нарадзіўся ён у 1882 г. у Менску, у сям'і чыгуначнага сьлёсара. Яшчэ задоўга да свайго поўналецьця — ад 13-гадовага узросту пачаў працаваць за прадаўца у краме, потым за канторшчыка на чыгунцы.

Калі пачала выходзіць беларуская газэта «Наша Ніва», У. Галубок становіцца за ейнага сталага супрацоўніка, друкуе там свае апавяданьні. Як пісьменьнік-бэлетрысты ён бярэ на сябе увагу ведамых крытыкаў. Акадэмік Карскі у сваёй манаграфіі «Белоруссы», т. III, «Очерки словесности белорусского племени» на бал. 386-7 адводзіць мейсца для характарыстыкі У. Галубка, як пісьменьніка. Піша пра яго у сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры» і Максім Гарэцкі.

Аднак, найбольшую здатнасьць і прызначаньне свае творчае натуры У. Галубок знаходзіць у беларускім тэатры і драматургіі, якім і аддае сябе цалкам прыблізна ад 1915 г. У. Галубок імкнуўся, каб беларускі народ дазнаўся свае тэатральнае культуры і праняўся патрэбным разуменьнем свайго нацыянальнага мастацтва.

Тэатар Галубка незраўнана шмат рабіў у справе прапаганды як прафэсыянальнага, гэтак і чыста народнага беларускага мастацтва. Гэтак, звычайна пасьля паказу галоўнае вялікае п'есы, вельмі часта на заканчэньне спэктаклю Вандроўны Тэатар Галубка яшчэ паказваў якую-колечы кароткую вясёлую аднаактавую камэдыю-вадэвіль, або часьцей канцэртавае аддзяленьне. Тут пяяліся беларускія народныя песьні, выконваліся народныя танцы сіламі тых-жа актораў тэатру пад акампанімэнт беларускіх народных музычных інструмэнтаў. Гэтак тэатар Галубка пашыраў у народзе веру у значнасьць і вартасьць свайго мастацтва, пашану і любоў да свае собскае мастацкае творчасьці.

Уладыслаў Галубок карыстаўся надзвычайна вялікай любоўю і як апавядальнік, асабліва сярод моладзі. Аўтару гэтых радкоў успамінаецца вечарына у Менскім Беларускім Пэдагагічным Тэхнікуме у 1928 г., калі перад вучнёўскай моладзяй Тэхнікума выступіў сам Уладыслаў Галубок. Ён апавядаў перад намі пра шляхі беларускага тэатральнага мастацтва, аб сваёй працы з Вандроўным Тэатрам сярод беларускага народу, успамінаў цікавыя прыгоды у часе бясконцых вандровак па Беларусі. Асобна перасьцярог нас ад няправільнага уяўнага разуменьня «лёгкасьці і прыемнасьці» акторскага жыцьця, падчыркнуў неабходнасьць шмат і шмат вучыцца і працаваць, расказаў, як толькі праз вялізарную працу над шліфаваньнем ролі актор дамагаецца мастацтва і дасягае жаданага посьпеху у гледача. Ягонае апавяданьне зрабіла на усіх нас гэткае вялізарнае уражаньне, што мы на усё жыцьцё праняліся ідэяй шчырага і ахвярнага служэньня свайму народу у кажнай галіне нашае культуры, загарэліся нязгасным вагнём гарачага жаданьня шчырай і бязупыннай, вялікай і натхнёнай працайператвараць любую галіну свае дзейнасьці у вялікае мастацтва, пакласьці усе свае маладыя сілы на сьвяты для нас аўтар службы ідэям культурнага і нацыянальнага Адраджэньня нашае Бацькаўшчыны — Беларусі.

Паказы Тэатру Галубка для многіх з нас былі першай сустрэчай з тэатральным мастацтвам. Яны выклікалі у кажнага з нас вялікія узрушэньні, ставілі перад намі больш складаныя пытаньні, прымушалі задумвацца над жыцьцём, удумліва ставіцца да зьяваў навакольнага сьвету і, галоўнае, выхоўвалі у маладых душах пачуцьцё мастацкага, прыгожага, імкненьні да хараства і пекнаты ва усім жыцьці, працы і дзейнасьці. Гэта яны рабілі нас тымі ідэялістымі, з якіх пасьля выходзіла новая беларуская інтэлігенцыя, творцы новых беларускіх культурных каштоўнасьцяў, маладая беларуская культурная эліта, што пазьней была бязьлітасна расьцярушаная савецкімі апрычнікамі.

Уладыслаў Галубок меў намер напісаць свае тэатральныя успаміны. З увагі на вялікае жыцьцёвае і сцэнічнае дазнаньне Уладыслава Галубка, багатыя назіраньні яго над жыцьцём беларускае вёскі у часе сваіх бязупынных вандровак па Беларусі, дасканалае веданьне культурнага стану і патрэбаў беларускага сялянства і г. д., можна было наперад сказаць, што гэта будуць высока-вартасныя і канечна патрэбныя для вывучэньня беларускае тэатральнае справы матар'ялы.

Аднак, абставіны разнастайнае сцэнічнае працы ня спрыялі мэмуарнай творчасьці, што патрабуе умоваў габінэтнага адлучэньня ад штодзённае празаічнае мітусяніны і спакойнага сканцэнтраваньня думак вакол успамінаў мінулага.

Інтэнсыўная штодзённая тэатральная праца разбура́ла шмат якія ягоныя літаратурныя пляны. Беларускаму Вандроўнаму Тэатру ён аддаваў усяго сябе да рэшты. Можа таму і адлучаў ён сябе неяк ад агульнага пісьменьніцкага і іншага тэатральнага жыцьця тых часоў. Таму-ж літаратура гэтак мала і пакінула аб ім сьлядоў у друку, што цяпер цяжка аднавіць шмат якія бакі ягонае вялізарнае і гістарычнае па значаньню для беларускага тэатру дзейнасьці.

*

Пакуль Беларускі Вандроўны Тэатар Галубка ня быў пад апекаю савецкае ула́ды, ён мог зусім вольна і неабмежавана тварыць свой нацыянальны стыль Народнага Тэатру. Дарма, што гэта была нядоўгая пара́ ягонае маладосьці (прыблізна першае пяцігодзьдзе ягонага існаваньня — 1920-1926 г.), аднак за гэты кароткі час Тэатар Галубка, дзякуючы надзвычайна інтэнсыўнай працы ягонага кіраўніка і усяго калектыва, здолеў стварыць уласьцівы яму свой тэатральны стыль і набыць ведамасьць па усёй Беларусі.

Гэта была залатая пара́ ягонага росквіту, ці, як называе праф. Тэпін, «сьветлая рамантычная пара́ ягонага юнацтва». Ягоная дзейнасьць за гэты час і становіць яго у поўным сэнсе тэатрам усенародным, запраўдным тэатрам-энтузіястым, тэатрам, вартым насіць імя свайго стваральніка і кіраўніка, галоўнае дзейнае сілы тэатра — Уладыслава Галубка. Гэткім ён увайшоў і у гісторыю беларускага тэатральнага мастацтва.

Тады-ж Уладыслаў Галубок зусім заслужана атрымаў годнасьць народнага артыстага.

З часу-ж загаду Саўнаркома БССР аб наданьні гэтаму тэатру назову Трэйцяга Беларускага Дзяржаўнага Тэатру пачынаецца пара́ ягонага заняпаду.

За Галубком тады было пакінутае толькі становішча дырэктара-адміністратара тэатру. Уся мастацка-рэжысэрская праца была перададзеная іншым асобам. Тэатру было запрапанавана карыстацца іншым рэпэртуарам. Паступова гэта давяло да таго, что п'есы самога Галубка усё больш выцісканіся агульна-савецкім рэпэртуарам, аж пакуль зусім ня былі зьнятыя са сцэны.

Усё гэта зьінáчвала агульны кірунак працы тэатра. Ён траціў уласьцівы яму, як вандроўнаму народнаму тэатру, твар, губляў сваю сцэнічную спэцыфіку і набываў звыклы і чужы яму характар звычайнага савецкага тэатру.

Зьмяніліся і акторы. Заміж былых аматараў-актораў, што праходзілі практычнае тэатральнае навучаньне пад беспасярэднім кіраўніцтвам самога Галубка і тым самым арганічна злучалі калектыў тэатра з шырокім масавым гледачом, цяпер акторскі склад папаўняўся гадунцамі савецкіх тэатральных тэхнікумаў. Апошнія прыносілі з сабой у тэатар чужыя раней-шай практыцы тэатра прынцыпы, навыкі і настроі, і разбуралі старыя традыцыі Народнага Тэатру.

Гэтак праз колькі гадоў ішло арганізаванае і сыстэматычнае разбурэньне Вандроўнага Тэатру Галубка. А калі Уладыслаў Галубок, як беларускі нацыяналісты, быў органамі НКВД арыштаваны і высланы, савецкія улады у 1937 г. наагул зачынілі гэты тэатар. Гэтак у барбарскі спосаб была загубленая выдатная ідэя Народнага Тэатра.

Цяпер справай гонару былых удзельнікаў Тэатра Галубка, дзе-б яны сяньня ня былі, ёсьць аднавіць аблічча і дзейнасьць нашага слаўнага Галубка і праз беларускі друк падзяліцца з чытачом сваімі успамінамі. Гэта будзе удзячны матар'ял для кажнага, хто возьме на сябе задачу апісаць больш падрабязна дзейнасьць Галубка — гэтае славы беларускага тэатру.

*У. Глыбінны.*




Хутка праходзілі кароткія васеньнія дні, аднак сяляне справіліся упарадкаваць нівы і падрыхтаваць зямлю на зімовы адпачынак. Мінуліся тыя сьвяты, у часе якіх выяўлялася глыбокая удзячнасьць Богу за пасланы ураджай і за здароўе. Адыйшлі і Дзяды, калі гаспадары з пашанай да душаў сваіх продкаў забясьпечвалі ім супакой аж да вясны. Усё нырнула у глыбіню непаўторнага часу, пакінуўшы толькі успаміны перажытага ды чаканьне лепшай будучыні...

І пакуль сяляне агледзілі свае хаты і будынкі для жывёлы — нахлынула Пілілаўка. Гэтак называецца шасьцітыднёвы прадкалядны пост, што цягнецца ад палоўы лістапада аж да першае Куцьці. Піліпаўкай-жа называецца дзеля таго, што пачынаецца ад дня апостала Піліпа (15. XI ст. ст.).

Кажны знае Піліпаўку, ня гэтулькі можа з посту, колькі з ейных даўгіх і цёмных вечароў, у часы якіх да позьняй ночы ня спыняецца рух у сялянскіх хатах. Руплівыя гаспадары занятыя усім, што патрэбна для парадку і ладу у гаспадарцы — уладжваюць, прыстасоўваюць, нарыхтоўваюць... работы хапае на кажны вечар, дарма што даўгі. Гаспадыні сьпяшаюцца раней агледзіцца, каб мець болей часу на прадзіва, бо яны мусяць падрыхтаваць матар'ял на адзеньне сям'і ды на усякі патрэбны у хаце лахман. Кіпіць работа пры лучынах, пры газьніцах, пры лямпах — каму на што стае...

Толькі хлапцы і дзяўчаты, як і падросткі, у даўгія піліпаўскія вечары выяўляюць сваю бесклапотнасьць. Толькі зьмеркне, павячэраюць — і моладзь зьбіраецца у якой прастарнейшай хаце на вячоркі. А тутака — балагурыць, жартуе, пяе, гуляе, танцуе, дурэе — забаўляецца як і чым можа. Гэткія «праявы» моладзі прыцягваюць і старэйшых, ахвотнікаў «кумпаніі». Мужчыны ідуць на вячоркі, каб паглядзець на «штукі» моладзі, падзяліцца навінамі, ці успамінамі з даўнейшых сваіх прыгодаў. Жанчыны прыходзяць «назіраць» дзяўчат, каб мець што цікавае. Некаторыя са старэйшых дык і самі бяруць удзел у гульнях моладзі — «для большага сьмеху».

Зазначыць трэба, што на вячоркі дзяўчаты і замужкі прыходзяць з якой-колечы работай — з прадзівам, з «работай на пруткох» — але гэта «болей для вока, чым для работы». Запраўды, якая можа быць работа, калі трэба «гуляць», або глядзець, як гуляюць.

Даўней, ды на'т яшчэ перад першаю сусьветнаю вайною шмат дзе на Беларусі выяўляўся гэткі звычай.

З надыходам Піліпаўкі дзяўчаты выпрашалі хату у якой удавы або у бязьдзетнага селяніна і праз усю зіму, аж да Вялікага посту, хадзілі сюды на супрадкі, вячоркі, начачкі. Зразумела сюды прыходзілі хлапцы і разам дурэлі ды гулялі да позьняй ночы. У сьвяты-ж гаспадыня хаты пякла бліны, пірагі з дзявоцкіх прадуктаў, часта украдкай вынесеных са свайго дому. Хлапцы прыносілі гарэлку... і адбывалася узаемнае частаваньне. Пасьля гэтага пялі, танцавалі пад прыпеўкі.

Выпадае адцеміць, што за даўгі пэрыяд піліпаўскіх вячорак дзяўчаты перасьпяваюць увесь запас песьняў, не прыстасаваных ні да азначанага часу, ні да якога абраду. У розных мяйсцовасьцях Беларусі гэтыя песьні маюць розныя назовы: вячорныя, васеньнія, зімовыя, «што пяюцца абы-калі» і да г. п. Часамі запас іх дапаўняецца песьнямі абрадавымі або тэй ці іншай пары — выклікаецца гэта якімі-колечы нязвычайнымі асаблівасьцямі на вячорках ці супрадках.

Канчаючы гэты нарыс, трэба падчыркнуць, што вячоркі і супрадкі, якія адбываюцца у часе Піліпаўкі, маюць вялікае значаньне у разьвіцьці народнай творчасьці і у самаўзгадаваньні моладзі на грунце нацыянальнай культуры. Піліпаўскія вячоркі — гэта час ня толькі «перашліфоўкі» песьняў, прыпевак, казак, легендаў, загадак, жартаў і да г. п., але час дапаўненьня іх і тварэньня новых варыянтаў. Піліпаўскія вячоркі — гэта час выяўленьня прымітыўнага народнага артыстызму у пяяньні, дэклямацыях, расказваньні, у скоках, ва усякіх рухах, патрэбных для выражэньня характэрных адценьняў якога зьявішча ці героя. Гэты артыстызм тутака выяўляецца у натуральных абставінах, зусім самабытна, і лёгка знаходзіць пасьледавальнікаў, якія далей разьвіваюць і удасканальваюць яго. Тутака выяўляюцца самародкі — здольнікі красамоўства, мастацкага чуцьця, творчай фантазіі, наагул усякія спрытуны, якімі няраз захапляліся этнографы і якімі багатая нашая зямелька — Беларусь.

Усякія гульні і штукі, якімі гэтак ахвотна забаўляецца моладзь у часе піліпаўскіх вячорак, служаць самабытным шырокім шляхам для фізычна-інтэлектуальнага узгадаваньня моладзі. Тутака выяўляецца, разьвіваецца і гартуецца шмат духовых якасьцяў, патрэбных у будучым змаганьні за лепшую будучыню беларускага народу. У гульнях і штуках так-жа выяўляюцца самародкі — спрытуны, каторым пазайздросьцілі-б у некаторых выпадках тыя, што вучыліся у вадмысловых школах.

Наагул-жа кажучы, Піліпаўскія вячоркі — гэта як-бы рэпэтыцыі, на якіх перабіраецца, пераглядаецца народная творчасьць, каб зноў захаваць яе у памяці да наступнай Піліпаўкі.

*У. Паўлюкоўскі.*

*Алесь Салавей*

## РАМАНС

*Няма нідзе*
*Блакітных васількоў —*
*Такіх, што ў нас — няма нідзе.*
*І ўноч, і ўдзень*
*Яны — трывога сноў:*
*Я на чужыне не знайшоў*
*Такіх нідзе.*

*Тваіх вачэй*
*Блакіт, о кведік мой,*
*О любая, за ўсё сіней*
*Блакіт вачэй...*
*Сябруе сум са мной,*
*Бо не знайсьці ў зямлі чужой*
*Такіх вачэй.*

*А. Крот*

## ТРЫЯЛЕТ

*Жыцьцё людзям адчыніць вочы,*
*Хоць родзяцца яны сьляпымі.*
*Рукамі мудрасьці сьвятымі*
*Жыцьцё людзям адчыніць вочы.*

*Ідзе народ і дні і ночы*
*Да шчасьця сьцежкамі крутымі.*
*Жыцьцё людзям адчыніць вочы*
*Хоць родзяцца яны сьляпымі.*

*24. 8. 43 г.*

*Вольга Лапіцкая*

## КРАСКА

*Цьвіцела красачка у восені дзень*
*позны,*
*Яна цьвіла нядоўга — толькі цень.*
*Зламаў яе павеў вятроў марозных,*
*Напоўніўшы маркотай ночы цень.*

*Памёрла красачка. Схіліла голаў*
*нізка,*
*Жыцьцё аддаўшы вечнай цямрыні...*
*А мроіла раней, што промень сонца*
*блізкі*
*Журблівая цяплом сагрэе дні.*

*Вялейка, 29. 9. 1943 г.*

*Уладзімер Дудзіцкі*

## ХАЙ ПЕНІЦА ВІНО

Стаіць пітва нявыпітага кубак, —
сам брагу пью...
хай пеніцца віно!
Ня трапіць больш на высахлыя
губы —
скажу:
другімі выпіта яно.
Мне кроплі сьлёз халоднае крыніцы
жывільнай стравай будуць напару;
прыду,
укленчу долу,
каб напіцца,
Каб смага не змагла ні дум, ні рук.

Алесь Салавей

# НА хуткіх крыльлях вольнага ПЭГАСА

ПРЫСЬВЯЧЭНЬНЕ

Мінаюць дваццаць першыя угодкі
Майго жыцьця. Пакуль яшчэ ня стар
Усё, што я набыў за час кароткі,
Што маю — пакладу на свой аўтар.
Для вас, сябры мае і аднагодкі,
Народзе мой, крывіцкі мой абшар,
Нашчадкі прышлага, былога продкі,
Я прысьвячаю слоў сардэчных дар.
Дармо, што вас ня бачу гэтым часам,
Дармо, што есьць мяне чужыны золь,
Грызе душу цяжкой разлукі моль, —
Зьнясу усё — і зло, і перагасы,
Да вас прымчу слоў гэтых хлеб і соль
На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса.

1

Калі з паўдня павее вецер пруткі, —
Там на паўдні — мой край, мая зямля,
Здаецца мне, што чую голас блізкі,
Дармо, што ён даносіцца здаля.
Яго страчаю я з паклонам нізкім,
Яму шляхі далей шчэ значу я, —
Гайдае ён майго чуцьця калыскі,
І неспакой сьцішае спакваля.
Калі-ж дыхне наўсуперак калючы
Паўночны вецер — клёк з радзімы ён
Гняце назад; шлю покліч наўздагон —
А голас разьбіваецца аб кручы.
На грудзі камень-жоран цісьне, млён
Сьвідруе сэрца жорстка і балюча.

2

Ня мае боль граніц і берагоў.
Я клічу ўсемагутнага Зэвэса:
О, мой Зэвэс, о слаўны бог багоў,
Зьмяці, скрышы нягодныя злавесы;
Ня дай паўночным скогатам шляхоў,
Захутай іх суцьмежнаю завесай;
Вярні назад паўдзённы ўздых вятроў
І прагані навалу хмараў зьвесых.
Так просіць помачы найвышшай той,
Хто стрэнецца зь няўхільнаю бядою.
Калі яна і цягнець за сабою,
І вязьніць у жахлівы горан свой —
З апошніх сіл ён дужаецца зь ёю,
Нібы плывак, што топіцца — з вадой.

3

О, мой Зэвэс!... Здаецца, у эфіры
Мяне пачуў ён — шле сваіх бажкоў:
Ляцяць яны, імклівыя Зэфіры,
З усходу й захаду — з усіх бакоў.
Лагодны подых шлюць ва ўлоньне шыры,
Даюць жыцьцю, што мерзьне, цёплы схоў.
І гэткі ласкавы, і гэткі шчыры
Павеў паўдня вяртаецца ізноў.
Хоць я на яве гэтага ня бачу,
Затое ў мроях пешчу і нашу,
Бо толькі можа ў іх уняць душу
Адзін паэта — больш ніхто, няйначай.
Тады нястрымнасьць болесьцяў глушу
Наплывам новых хваль крыві гарачай

4

Тады прыходзіць Муза. Мне яна —
Сяброўка дум узьнёслых і натхненьня.
Ніхто апроч яе — яна адна
Вядзець мяне да спраў і лятуценьняў.
Туды вядзець, дзе творчасьці вясна,
Становіцца на шлях маіх імкненьняў,
Гатовая ў няпомыс адагнаць
Натоўпы чорныя свавольных ценяў.
Я зь ёй заўжды. І нас не разлучыць.
Так над калыскай хворага дзіцяці
Схіляецца і ўдзень і ўночы маці,
Яна глядзіць яго, яна ня сьпіць,
Гатова на'т жыцьцё сваё аддаці,
Каб ейнае змагло дзіцятка жыць.

5

У звоне рыфмаў і у іхнай рэі
Сьпявае Муза мне ўвесь час, заўжды,
І кажны раз прытуліць і сагрэе —
Крылатай думка робіцца тады:
Нясець мяне і ў край, што ў ранах млее,
Нясець мяне і ў прышласьць праз гады,



Алесь Салавей

Дзе новы ўсход пурпураю зарэе,
Дзе вольнага жыцьця цьвітуць сады.
Даруй, чытач мой, мне за гэткі раньні
І без пары, бяз часу сьмелы лёт.
Але-ж, казаў той, думкі ломяць лёд
Замінаў. І у творчым парываньні
Чаму-ж парой ня ўзьняцца да высот?...
. . . . . . . . . . . .

6

Нікому дум маіх ня ўзяць на засаў,
Пакуль жывуць — усякі змогуць час.
Пакуль жыцьцё у сэрцы не пагасла,
Хачу радзіму ўбачыць шчэ хоць раз.
Маё жыцьцё і я — нястрымна, засаб
Ірвёмся ў выш, на родных ніў Парнас...
На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса
Лячу, мой край, сябры мае, да вас.
. . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . .

7

Лячу, лячу з далёкае чужыны —
Ля зораў неба торнага мой шлях.
Вітаньне вам, знаёмыя мясьціны,
Табе, зямлі сялянскае прасьцяг!
Я быў і ёсьць і буду вашым сынам,
Бацькамі — вы. Ня спаў я па начах —
Жылі ў маіх вы думках неадхлынна,
А засынаў — былі ў маіх вы снах.
Даўно ня бачыў вас. У дальняй зморы
Мне кажны месяц быў даўгім, як год.
Праз сотні вёрстаў, сотні перашкод,
Праз немарач лясоў, праз стромы гораў
Сягаў да вас, радзіма і народ,
Сягаў да вас, крывіцкія прасторы.

8

Вось і яны, мурожныя лугі,
Што хараством нязгасным вабяць вока.
Ля іх, у сьценях лозаў — берагі
Ракі-Вусы — дзе плыткай, дзе глыбокай.
Бягуць да берагоў тых праз лагі
Крыніцы, поўныя зямнога клёку.
А зь неба ў люстры водаў, як багі,
Адсьвечваюцца белыя аблокі.
Вуса, Вуса! Ці помніш, як вясной
Тваім я захапляўся ледаходам?
А ўлетку у вабдымкі плынных водаў
Нырáў і дна кранаўся галавой?
Ці помніш, як па коўзкай гладзі лёду
На спрытных коўзьнях бегаў я зімой?

9

Ці помніш?... Ад ракі ідуць прысады
На ўсход. Там бачна Шылава гара.
Туды калісь я бегаў на агляды
Высокіх хвояў, што пасталі ў рад.
Чуў іхны звон. І быў бясконца рады,
Калі ўзабраўшыся на хвою, пазіраў
На шыр палёў, на пышнасьць далягляду.
Дзе перад гэтым краскі я зьбіраў.
Тут восеньню, вясной, зімою, летам
Па два-тры тыдні я бываў штогод.
Да дзеда ў госьці прыяжджаў. Турбот
Улетку больш за ўсё было — палетак
Карцела кажны абыйсьці; і от —
Мне сталася найлюбым мейсца гэта

10

Тут, трэ' сказаць, я гадаваўся, рос,
Дармо, што змалку срога і няміла
Мяне кідаў па іншых мейсцах лёс.
Бо толькі тут мяне зямля ўспаіла
Жывой вадой; багацьцяў ейных плёс
Уліў у грудзі моцы плынь і сілы,
Маю душу да самых зор узьнёс,
Ёй даў узьлёт і даў Пэгаса крылы.
З маленства сэрца толькі тут маё
Любоў да краю роднага адчула.
За вёскай зь дзедам быў парой; кранула
Мяне — ён ведаў — ніваў тхнень, гаёў,
«Унучку, глянь, — казаў дзядунька чула.
«Усё, што бачыш — наша, ўсё сваё.»

11

І я праходзіў праз палі, празь нівы —
Сем год было мне. (Хутка годы йшлі!)
Купаўся ў моры збажыны шумлівай
І прыпадаў грудзямі да зямлі.
Прыкладваў вуха да яе — чульліва
Я адчуваў, як сокі там цяклі,
Як выплывалі напаверх імкліва,
Як травы ў гуках, чутных мне, расьлі.
І думаў я аб тым, каб тыя гукі
Сабраць і у вадзін зьвязаць клубок,
Напоўніць імі любы мой куток —
Тады ня бачыў-бы ні зла, ні мукі.
(Такі зь мяне маленькі быў прарок,
Які ня знаў ніякай шчэ навукі).

*(Заканчэньне паэмы будзе.)*



# ГУМАР

Гумарэска Уладзімера Сьвятловіча

## „Сват“

Быў вечар. Два сябры сядзелі у хаце і гутарылі.

— Ведаеш, брат, хачу жаніцца, — сказаў адзін з іх, якога звалі Васілём Смутным. — Але бяда — не знайду сабе добрае дзяўчыны. Надаела бабылём жыць. Ходзіш з кута у кут, нібы абухом па галаве выцяты, і ня ведаеш, што рабіць. Ніхто цябе ня прыгрэе і не прыгалубіць... Эх!..

Ягоны сябра, Антось Засуня, адказаў:

— Вось яно што — жаніцца хочаш? Кажаш, што яшчэ дзяўчыны сабе ня выбраў? Ну, гэта не бяда — дзяўчатаў цяпер хапае... — і, падумаўшы крыху, дадаў: — А ведаеш што, Васіль, я маю такую дзяўчыну, якая якраз да цябе падыйдзе, магу вас пазнаёміць. Яна для цябе будзе за добрую жонку.

— А ці прыгожая, ці чароўная яна? — спытаўся Васіль.

— Аб гэтым і гутарыць ня варта, — быў адказ.

— Ну, дык добра, ты ужо заадно і пазнаём мяне і будзь за майго свата, — сказаў Васіль.

— Ну, дык, заўтра і пойдзем. А цяпер бывай, я вельмі сьпяшаюся.

Сябры паціснулі адзін аднаму рукі, і Антось выйшаў.

Назаўтра увечары Васіль доўга глянцаваў свае чаравікі і, як-сьлед прыбраўшыся, падыйшоў да люстры. — «Нішто сабе хлапец, — падумаў ён, — але вось нос трохі крыўдзіць: вялізны і чырвоны, як у п'яніцы.»

Неўзабаве прыйшоў і Антось Засуня.

— Усё як мае быць, можам ісьці.

Сябры выйшлі на вуліцу. Па небе паўзьлі чорныя хмары, зьбіралася на дождж. Вось і хата нявесты. Зайшліся. Прывіталіся. Маці нявесты — нішто сабе яшчэ жанчына — запрасіла іх садзіцца.

Селі за стол. Васіль пачаў разглядаць Зоську — так звалі гэтую дзяўчыну.

А яна і падпудраная, і падфарбаваная, і усьміхаецца на увесь рот, быццам зубы прадае.

— Чаго так заглядзеліся на Зосю? Мабыць спадабалася?

— Я-ж і кажу, хто каго любіць, той таго і чубіць, — адказаў за Васіля Антось і зарагатаў.

Зоськіна маці параіла Васілю і Зосьцы прайсьціся у сад і там лепш пазнаёміцца.

Стаяла восень і жоўта-чырвоныя лісты ападалі з дрэваў. Сутунела.

— Дык вы парашылі жаніцца? — спыталася Зося у Васіля, калі яны выйшлі у сад, і засьмяялася.

— Так. Але хіба гэта сьмешна?

— Я заўсёды такая...

— Якая такая? — спытаў ён.

— Ну, вясёлая... — быў адказ. І зноў хіхіканьне.

— Годзе сьмяяцца, лепш раскажыце дзе вучыліся, што скончылі?

— Скончыла 7 клясаў і восьмы калідор, — заліўшыся няпрыемным сьмехам, адказвала Зося.

Размова далей ня клеілася.

Раптам Васіль заўважыў, што адна нага у Зосі таўсьцейшая, а другая — карацейшая. «Ну і чароўнасьць, дык чароўнасьць», — падумаў Васіль і, не зважаючы на далікатнасьць, спытаўся:

— Гэта што у вас — ногі няпарныя, ці што?

І нічога больш ня кажучы, падаўся да хаты па капялюш.

*

Тым часам, калі Васіль гутарыў з Зоськай у садзе, ейная маці у хаце дастала з шафы бутэльку самагонкі і запрапанавала Антосю, свату, выпіваць.

Антось, які піў больш за яе, раптам падняўся з крэсла і з бліскучымі вачыма загаварыў:

— Я кахаю вас, кахаю ад шчырага сэрца! Гэта-ж я пасватаў такога пекнага хлопца вашай Зосьцы! Чаму вы маўчыцё? Адгукніцеся на маё каханьне таксама.

У гэты мамэнт якраз ішоў Васіль і праз адчыненае вакно пачуў гэтыя словы.

Антось цьвярдзіў і цьвярдзіў:

— Не адмоўцеся-ж у маім каханьні...

Пастаяўшы крыху каля вакна, Васіль падаўся у хату.

— Вось і вы... Вельмі добра... — казала маці, — падыходзячы і цалуючы яго. — Сядайце, калі-ласка... — З ейнага роту аддавала самагонкай.

— Прабачце, я на колькі часінаў выйду, бо у мяне жывот забалеў, — сказаў Васіль, бяручы свой капялюш.

Трымаючыся аднэй рукой за жывот, ён пасунуўся да дзьвярэй і выскачыў, нібы ашпараны, на двор. Да яго кінуўся сабака і разадраў калашу. Васіль падаўся на уцёкі.

— Вось дык сват... Вось дык маладая... — праз усю дарогу яго сьцігавала гэткая думка.



*— Я кахаю вас, кахаю ад шчырага сэрца!..*

### Парада паэты

Малады паэта аднойчы сказаў сваёй знаёмай:

— Якая вы прыгожая!

— Як шкада, што не магу сказаць тое самае пра вас, — ня зусім ветліва адказала яму знаёмая.

— А вы зрабіце гэта так, як я, — скажэце няпраўду, — зазначыў паэта.

### Дасканальны адказ

Судзьдзя запытаўся у абвінавачанага, ці быў той раней пакараны судом.

— Так, спадар судзьдзя, 10 год таму мяне судзілі.

— А з таго часу вас больш ня судзілі?

— Не, спадар судзьдзя.

— А чым вы увесь гэты апошні час займаліся?

— Сядзеў у турме.

### Рэдкі выпадак

— Зірні, сусед! Савецкія-ж газэты, як вынікае, не заўсёды хлусяць! Усё-ж-ткі пішуць і праўду!

— Дзе гэта ты знайшоў?

— А вось надрукавана: «Учора у раёне прайшлі дажджы».